*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

***Алег Лойка***

# Слонімскі край



**2018, № 4(26). Красавік**

## Лёс Хведара Жыткевіча з Сялявічаў

Усё пачалося з архіўнага дакумента, які ўпершыню быў апублікаваны на старонках "СК". У 1927 годзе жыхар вёскі Сялявічы Слонімскага павета Хведар (Фёдар, Тодар) Жыткевіч даслаў у Вільню ў рэдакцыю газеты "Беларуская крыніца" беларускамоўны ліст. Ён скардзіўся на неўраджай і цяжкія матэрыяльныя варункі, прасіў дасылаць выданне бясплатна. Таксама селянін цікавіўся грамадска-палітычным жыццём. Яму далі адказ у газеце праз рубрыку "Наша пошта", прапанавалі ўступіць у партыю "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", даслалі праграмныя дакументы.

Пакуль не ўдалося высветліць, ці ўключыўся Жыткевіч у беларускую палітычную ці асветніцкую дзейнасць. А вось пра лёс яго мы даведаліся з дапамогай нашага чытача Генрыха Засімовіча, жыхара тых самых Сялявічаў. Атрымліваецца, што Хведар Жыткевіч пражыў доўгае жыццё — ён памёр на чужыне ў 103-гадовым узросце.



***У цэнтры стаіць Хведар Жыткевіч, каля яго сядзіць жонка Зузана Жыткевіч (Засімовіч), якая трымае сына Віктара. Справа ад іх стаіць сын Зыгмунт. Злева ад маці яшчэ трое дзяцей — Юзэфа, Ян і Баляслаў (справа налева). Здымак зроблены каля 1930 года, друкуецца ўпершыню.***

*Працяг на ст. 3.*

## Васіль Супрун: "Я спускаўся ў падземны тунэль..."

У гэтым нумары "СК" змяшчаем успаміны краязнаўцы, археолага, паэта Васіля Супруна (1926 — 2007), прысвечаныя выключна падзямеллям у Слоніме. Запіс быў зроблены намі больш за два дзесяцігоддзі таму — 2 сакавіка 1997 года. Супрун меркаваў, што выяўлены ў 1970 годзе ў раёне вуліцы Маякоўскага тунэль мог адносіцца да XVIII стагоддзя. На наш погляд, ён быў пабудаваны на сто гадоў раней і ўваходзіў у сістэму гарадскіх падземных тунэляў.*




У сваіх успамінах Васіль Супрун згадвае і іншыя месцы выяўлення падземных тунэляў, выказвае сваё меркаванне наконт легенд пра існаванне падземных ходаў са Слоніма ў Жыровічы, ці пад Шчарай у межах горада.

●***Сяргей Ёрш***

*Працяг на ст. 4.*

**Ёрш С. Да пытання існавання ў Слоніме падземных тунэляў // Слонімскі край, 2016, № 1. Люты. С. 4-5.*

ХРОНІКА

# Мастак намаляваў Міхала Валовіча



У красавіку ў Мінску праходзіла выстава твораў беларускага мастака Алеся Цыркунова. Сярод яго выдатных і арыгінальных карцін вялікую цікавасць выклікаў мастацкі твор, прысвечаны нашаму славутаму земляку Міхалу Валовічу (1806 — 1833). На карціне бачым яго на кані, узброенага пісталетамі і шабляй. Дзесьці ў небе над Валовічам праносіцца славутая Пагоня, якая ваюе з чорнымі сіламі, якія загубілі паўстанца...

Міхал Валовіч удзельнічаў у вызваленчым антымаскоўскім паўстанні 1831 года, ваяваў у складзе аднаго з атрадаў. Калі ж яно пацярпела паражэнне, эміграваў, жыў у Францыі. Але не змог доўга быць на чужыне, ірваўся да барацьбы на роднай зямлі. Валовіч быў вельмі прагрэсіўным (“радыкальным”) на той час чалавекам, выступаў за ліквідацыю абшарніцкага землеўладання, за скасаванне прыгону, за бязвыплатную перадачу сялянам зямлі ў калектыўную ўласнасць. Ён спадзяваўся, што ўдасца аднавіць Рэч Паспалітую, але гэта мусіла быць ужо іншая дзяржава, дэмакратычная.

У 1833 годзе Міхал Валовіч нелегальна вярнуўся на радзіму, стварыў на Слонімшчыне паўстанцкі атрад. Але разгарнуць актыўную дзейнасць ён не паспеў — у адным з баёў быў паранены і захоплены ў палон. Валовіча пакаралі смерцю ў Гродне. Паводле легенды, яго цела выкупіла маці і тайна пахавала ў Парэччы. Там на могілках ёсць помнік, усталяваны ў гонар Міхала Валовіча і яго паўстанцаў.

●*Сяргей Чыгрын*

# Помнік Тадэвушу Касцюшку ў Марачоўшчыне ўсталююць 12 траўня

Першы ў Беларусі помнік Тадэвушу Касцюшку (1746 — 1817), нацыянальнаму герою нашай краіны, Польшчы і ЗША, у Марачоўшчыне каля Косава (былы Слонімскі павет, цяпер — Івацэвіцкі раён) усталююць 12 траўня. Пра гэта паведаміў грамадскі дзеяч Глеб Лабадзенка. Менавіта ён ініцыяваў збор сродкаў на помнік. Адкрыццё планавалася яшчэ ў лютым, але ўмовы надвор’я ўнеслі свае карэктывы. Улады далі ўсе неабходныя дазволы на ўсталяванне.

●*ГГ*

# Лёс Хведара Жыткевіча з Сялявічаў

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Генрых Засімовіч высветліў, што жонка Хведара Жыткевіча Зузана Жыткевіч (Засімовіч) яго сваячка. У Польшчы ён знайшоў унука Жыткевіча і той даслаў некалькі лістоў і фотаздымкі. Змяшчаем адзін з іх у перакладзе на беларускую мову.

"Праўдападобна (90%) у той газеце [у "СК"] згадалі майго дзеда Тодара Жыткевіча (народжанага ў 1880 г.). Яго сям'ю (жонку і чацвёра дзяцей) саветы вывезлі ў Сібір [у 1940-м ці ў 1941-м гадах]. Ён тады быў у турме разам са старэйшым сынам (маім бацькам Зыгмунтам). Пасля нападу немцаў на СССР дзед разам з маім бацькам [выйшлі на волю і] вярнуліся ў Сялявічы. Пасля мой бацька пайшоў на вайну разам з польскім войскам, а дзед з-за ўзросту застаўся дома. У пасляваенны час мой бацька застаўся ў Польшчы (ва Уроцлаве). У 1947 годзе ён забраў [у Польшчу] з Сялявічаў Тодара, сваю жонку і дачку. Пазней стала вядома, што сям'я, вывезеная ў Сібір, знайшлася ў Англіі (разам з польскай арміяй Андэрса прайшлі шлях з СССР праз Іран, Афрыку — "СК"). У 1957 годзе Тодар выехаў на сталае жыхарства (у рамках аб'яднання сем'яў) у Бірмінгем у Англіі. Там ён памёр у 1983 годзе.

З таго, што ведаю, перад [Другой сусветнай] вайной дзед быў заангажаваны ў грамадскую дзейнасць.

Гэта вельмі кароткая гісторыя майго дзеда.

**Януш Жыткевіч**

(унук Тодара Жыткевіча)".

Такім чынам нам удалося высветліць лёс Хведара Жыткевіча (1880 — 1983). Тыя згадкі, якія былі змешчаныя ў мінулым артыкуле*, адносяцца да адной асобы. А значыць падчас нямецкай акупацыі ён сапраўды ўдзельнічаў у польскім антынацысцкім Супраціўленні на Слонімшчыне. Застаецца высветліць, ці працягваў жыхар Сялявічаў пасля 1927-га супрацоўніцтва з БХД, з "Беларускай крыніцай".

●***Сяргей Ёрш***

**Ёрш С. Як Хведар Жыткевіч з Сялявічаў звязаўся з беларускімі палітычнымі партыямі // Слонімскі край, 2018, № 2(24). Люты. С. 12-13.*

Слонімскі край, №2(24)

*З АРХІВАЎ*

**Як Хведар Жыткевіч з Сялявічаў звязаўся з беларускімі палітычнымі партыямі**

У пачатку лютага 1927 года рэдакцыя віленскай газеты "Беларуская крыніца" атрымала ліст з вёскі Сялявічы са Слонімшчыны. Напісаў яго беларускай лацінкай Хведар Жыткевіч. Падаем ліст з праўкамі, з адаптацыяй да сучаснага правапісу. Ён друкуецца ўпершыню.


Cana asobnaha numaru 20 hr. U hetym numary 6 staronak. Przesyłka opłacona ryczałtem.
Nr. 7. Wilnia, Piatnica 11 Lutaha 1927 h. Hod III (XI).
BIEŁARUSKAJA KRYNICA
PALITYČNAJA, HRAMADZKAJA I LITERATURNAJA HAZETA.
HAZETA WYCHODZIĆ RAZ U TYDZIEŃ.

**"Шаноўна[я] Рэдакцыя!**

Вельмі пажаданым мне чытаць Вашу газету "Крыніцу", пав[ет] Слонім[скі]".*

У газеце гэты ліст не друкаваўся. Аднак рэдакваны нехта Фёдар Жыткевіч, а яго сям'ю выслалі ў Архангельскую вобласць Расіі. Ці гэта той самы чалавек? Трэба спраўдзіць,



***Хведар Жыткевіч. Друкуецца ўпершыню.***

Ś. † P.

**TEODOR ŻYTKIEWICZ**

syn Ziemi Nowogródzkiej, urodzony 4 czerwca 1880, opatrzony Św. Sakramentami zmarł 13 czerwca 1983 w Birmingham.

Msza św. żałobna zostanie odprawiona w kościele Św. Michała w Birmingham w poniedziałek 20 czerwca o godz. 14, po czym pogrzeb na cmentarzu Oscott College.

Ze smutkiem zawiadamia

RODZINA W ANGLII
I W POLSCE

2548

УСПАМІНЫ

# Васіль Супрун: “Я спускаўся ў падземны тунэль...”



*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Легенды па Слоніму ходзяць розныя і многія. У свой час хадзіла такая легенда, што быццам Слонім злучаны з Жыровічамі падземным ходам. Была і такая легенда ці паданне, што Слонім, у свой час, быў злучаны [падземным тунэлем] з Дзярэчынам, з Сынковічамі. Легенды гэтыя не маюць пад сабой практычна-тэхнічнай асновы. Справа ў тым, што скапленне газаў у склепах, паграбах без вентыляцыі — смяртэльнае. Таму на такую вялікую адлеглась у тыя далёкія часы, калі не было магутных вентыляцыйных установак, не маглі існаваць такія вялікія падземныя хады.

Безумоўна, былі падзямеллі. Амаль пад усімі касцёламі былі падзямеллі і пераходы, нават такія тунэлі. Былі яны з аварыйнымі ці запаснымі выхадамі. Калі будаваліся касцёлы на нашых тэрыторыях у XV-XVI стагоддзях, яны ўзводзіліся на “чужой тэрыторыі”, як своеасаблівыя апорныя пункты каталіцызму і паланізацыі на нашай зямлі.

Тады адыгрывалі яны ролю “ваенных аб’ектаў” (абарончую). На ўсялякі выпадак, на выпадак бунту, з-пад гэтых касцёлаў, кляштараў меліся невялікія выхады. Таму дапускаецца, што на тэрыторыі Слоніма маглі быць тунэлі, як нейкія аварыйныя таемныя хады.

Але той тунэль, які быў выяўлены падчас будаўніцтва ў 1970 годзе райспажыўсаюзаўскага цэнтра [у раёне вуліцы Маякоўскага] — гэта тунэль позні, прыкладна другой паловы XVIII стагоддзя. З якой мэтай ён будаваўся, сказаць цяжка. Супрацоўнікі Акадэміі навук, у дадзеным выпадку [Яраслаў] Зварыга, тады кандыдат гістарычных навук, які вёў раскопкі ў нас у Слоніме ў 1968 годзе, зацікавіўся гэтым тунэлем. Але нічога канкрэтнага ён не мог сказаць, нават пасля яго абследавання. І нарадзілася такая думка, што быццам бы гэты тунэль мог выконваць ролю каналізацыйнага тунэля. Напрамак яго — амаль ад касцёла непакалянак у напрамку Шчары.

Былі выхады з яго. Адзін з іх быў знойдзены якраз на месцы, дзе быў пабудаваны будынак райспажыўсаюза. Гэта быў калодзеж дыяметрам прыблізна 80-90 сантыметраў, выкладзены з цэглы. Павярхоўная захаванасць тунэля была засведчана мной на працягу 21 метра (там можна было прайсці). Вышыня яго 195 сантыметраў. Шырыня сценаў была розная: знізу прыблізна 90-95 сантыметраў, а на вышыні 50-60 сантыметраў.

Скляпенні цагляныя і сценкі, абліцоўка ўнутраная, цагляная. А за цэглай былі ўкрапленні камянёў, даволі буйных камянёў. Сама цэгла, датаванне па цэгле прыблізна другая палова XVIII стагоддзя. А падзямелле ці нейкія падвалы палацу Агінскага былі зроблены з цэглы больш ранняй. Там заўважныя палоскі,

зробленыя пальцамі. Цэгла зусім іншага памеру і апалу.

Згаданы люк быў засыпаны друзам. Над скляпеннем ён выходзіў на вышыню можа сантыметраў 50-60. Але зверху ён быў прысыпаны метровым і нават больш слоем друзу: бітая, ламаная, гарэлая цэгла. Карацей кажучы, гэта пасляваенны час. Там былі будынкі, магчыма, нават на гэтым тунэлі ўжо будавалася нешта...

Стаброўскі як быццам бы пры сустрэчы засведчыў... Толькі не памятаю дакладна, ці гэта ён мне сам гаварыў, мне расказваў, што на тэрыторыі вуліцы Касцюшкі (цяперашняй Маякоўскага) быў правал — праваліласа вуліца ў адным месцы. Запрасілі Стаброўскага, як спецыяліста. Ён абследаваў гэтае месца і прыйшоў да такога заключэння, што магчыма гэта правал тунэля. Але куды і адкуль ён ішоў, Стаброўскі не мог нічога засведчыць, бо было небяспечна пранікаць у гэтае падзямелле. Магчыма, гэта былі нейкія падземныя склепы, ці нават ход між старымі дамамі. Ён далекавата быў ад тунэля, знойдзенага ў 1970-м, ішоў фактычна паралельна з гэтым. Адлегласць паміж імі складала нейкіх 50 метраў. Правал той адбыўся дзесьці ў 1920-я гады, магчыма, у пачатку 1920-х.*

**На гэтую тэму гл. наступную публікацыю: Ёрш С. Як у Слоніме ў 1928 годзе знайшлі падземны ход // Слонімскі край, 2017, № 2(12). Люты. С. 7-8.*

Стаброўскі дапускаў, што, магчыма, гэты тунэль звязваў касцёл латэранскі (які ў XIX стагоддзі стаў праваслаўным саборам) з замкам на левабярэжжы Шчары (бо стары замак быў на правабярэжжы Шчары). А ўжо замак, збудаваны пры старосце Яну Радзівілу на левабярэжжы (побач з сённяшнім "Замчышчам") ў 1520 годзе,

«За перамогу камунізму»

КЛУБ ВЫХАДНОГА ДНЯ

ЗАГАДКІ МІНУЛАГА

НЯМАЛА легенд і неверагодных апавяданняў звязана з падземнымі збудаваннямі мінулых стагоддзяў — тунелямі. Не з'яўляецца выключэннем і Слонім.

Раскзваюць, што патаемныя падземныя ходы калісьці існавалі не толькі паміж касцёламі і кляштарамі старога Слоніма, але і звязвалі з імі замак.

Ды што гэта! Быў нібы такі ход паміж Троіцкай царквой, а можа нават і касцёлам св. Андрэя і манастырскім комплексам у Жыровічах.

Знаходзяцца і «героі», якія сцвярджаюць, што самі хадзілі па гэтых тунелях на вялікую адлегласць. Іншыя зноў самі даследавалі абвалы тунеляў у розных месцах горада. Загадкавае падзямелле нярадка ілюструецца скарбамі...

А ці існавалі ў Слоніме такія тунелі?

Пры будаўніцтве ў 1970—1971 гадах будынка райспажыўсаюза на вуліцы Маякоўскага, насупраць пошты, на глыбіні каля трох метраў ад паверхні коўш экскаватара нечакана скрабянуў па нейкаму цаглянаму збудаванню. Яшчэ і яшчэ раз зубы каўша скрыганулі па моцнай муроўцы. Нарэшце некалькі цяжкіх удараў і скляпенне правалілася. У разваліне ўдалося разгледзець мураваны тунель, які ішоў з боку Першамайскай вуліцы да Шчары.

Як высветлілася пазней, была выяўлена частка добра захаванага падземнага збудавання даўжынёй 21 метр невядомага прызначэння. Абодва канцы тунеля завалены бітай цэглай і каменнямі, што сведчыла аб працягу збудавання. Абвал ва ўсходнім канцы быў засыпаны ў 30-я гады нашага стагоддзя, а заходні — пры будаўніцтве дома раней.

Цагляны тунель мог служыць падземным ходам. Меў вышыню 1,95, а шырыню 1,2 метра, столь — у выглядзе паўцыліндрычнага скляпення, падлога роўная, цагляная, без слядоў прамывін. Сцены таўшчынёй ад 64 сантыметраў уверсе да 80 сантыметраў у цокалі складзены з цэглы ручной фармоўкі неаднолькавага памеру на крупкаватым вапнавым росчыне, з вонкавага боку мелі ўмацаванні вялікіх каменняў, з унутранага — неатынкаваныя. У заходняй частцы збудавання пад скляпеннем быў лаз.

Узводзіўся тунель не ў спецыяльна выкапанай канаве, а на дне ўжо існаваўшага і часткова заплыўшага рова. Час будаўніцтва не вызначаны.

На плане горада 1825 года прыблізна на гэтым месцы абазначан шырокі роў, якім адмяжоўвалася тэрыторыя былога палацавага комплексу М. Агінскага ад астатняй часткі горада.

Для праезду ў палац тут быў мост з цаглянай брамай і вартавымі службамі.

Тунель, верагодна, быў збудаваны недзе ў першай палове XIX стагоддзя. Ёсць два меркаванні аб яго прызначэнні: магчыма гэта частка гарадской каналізацыі або сапраўды падземны ход. Унутраныя памеры збудавання, прафіліроўка падлогі больш нагадваюць апошняе.

У іншых месцах горада аналагічныя збудаванні не выяўлены.

Пад старымі касцёламі і кляштарамі падзямеллі ў выглядзе галерэй-пераходаў і розных склепаў, безумоўна, існавалі, а часткова і існуюць. Аднак патаемнага ходу паміж Слонімам і Жыровічамі быць не магло.

Будаўніцтва і выкарыстанне такіх збудаванняў — справа нялёгкая нават і ў нашы дні. Вельмі ўжо не падыходзяць рэльеф мясцовасці і суседства ракі Шчары. Складанасць гідраізаляцыйных мерапрыемстваў, адводу грунтавых вод і вентыляцыі зрабіла б эксплуатацыю нават існуючых збудаванняў немагчымай.

Паколькі падземныя збудаванні горада спецыяльна не даследаваліся, іх існаванне, выгляд і стан застаюцца загадкай часу. Сувязь жа Слоніма з невялікімі мястэчкамі і створаныя аб гэтых патаемных ходах легенды — прыгожая фантазія слонімчан.

В. СУПРУН.

***Артыкул Васіля Супруна ў газеце "За перамогу камунізму" 17 траўня 1986 года.***

быў знішчаны ў час расійска-польскай вайны, у 1655 годзе, або ў 1657-м. Стаброўскім было вызначана, што накірунак тунэля быў блізкі да згаданага касцёла і да тэрыторыі замка, якая крыху на поўначы ад палаца Агінскага. Палац быў пабудаваны ўшчыльную да былога замка. Магчыма, таму, што на тэрыторыі замка былі падзямеллі. І ў час будаўніцтва гэтага будынка былі выяўлены сцены з атынкоўкай з аднаго боку, што гаворыць аб тым, што з другога боку быў грунт, зямля. А з унутранага боку была атынкаваная сцяна і, магчыма, там былі нейкія сховішчы. Па-першае, там было багатае сховішча дакументаў, была нясвіжская... 

кепская бібліятэка, архіў. Фактычна, усё загінула ў час вайны расійска-польскай. У час, калі быў знішчаны сам замак. І таму на гэтым друзе, на гэтых руінах будаваць Агінскаму — затраты былі значна большыя. Таму ён прыняў крыху далей на поўдзень, упрытык да гэтых будынкаў былога замка — збудаваў свае збудаванні.

У Агінскага нямнога было падземных збудаванняў — гэта невялічкае такое мураванае падзямелле. Яно існуе і цяпер, сляды яго ёсць і цяпер. У час раскопак 1959 года Пех спрабаваў агаляць сценкі падмурку гэтага будынку, таму раскопкі свае ён размясціў паміж збудаваннямі Агінскага і замкам. Фактычна,

раскопкі 1959 года далі такія матэрыялы, на аснове якіх можна рабіць выснову, што замчышча на гэтым месцы не было. Знаходкі сведчылі аб тым, што гэта звычайны жылы масіў старога Слоніма з гаспадарчымі збудаваннямі, з магутным слоем гною. А замак быў крыху на поўнач. Якраз у час будаўніцтва гэтага будынка былі выяўлены і перакрыцці падвалаў, і кавалкі сцен і нават шырокі праём.

Езуіцкі калегіум размяшчаўся на тэрыторыі сучаснай вуліцы Камуністычнай. Гэта якраз побач і на месцы будынка сучаснай рэдакцыі газеты “Слонімскі веснік”. Збудаваны ён быў недзе ў самым пачатку XVIII стагоддзя. У 1705 годзе былі запрошаны ў Слонім езуіты. Быў пабудаваны гэты калегіум і пры ім акадэмія, як тады называлася сярэдняя навучальная ўстанова такога касцёльнага накірунку езуіцка-прапагандысцкага, але з часткай свецкіх дысцыплін.

Відаць, недзе ў 1720 годзе будынак гэты ўжо ўзводзіўся, альбо яго пачыналі ўзводзіць. Рабілі яго, відаць, з кепскага матэрыялу, бо ён вельмі хутка разваліўся. Недзе за няпоўную сотню гадоў ён ужо перастаў існаваць. На схеме 1795 года ён яшчэ адзначаны, ён ёсць, але на планах горада 1825 года ўжо гэты будынак не існуе. Так што цяжка сказаць, што за прычына: ці выгналі езуітаў са Слоніма, і гэта безгаспадарчасць дапамагла яго разбурэнню таксама, як і збудаванням Агінскага. Міхал Казімір Агінскі памёр у 1800 годзе ў Варшаве, у апошнія гады жыцця ў Слоніме ён не жыў. Ужо недзе ў 1810 годзе яго збудаванні пачалі разбурацца, нягледзячы на тое, што яны перайшлі да сенатара Навасільцава. Прычына: не ўсе будынкі былі задзейнічаны Навасільцавым. Яны былі проста кінутыя без рамонту, асабліва будынак оперы. І праз 20-30 гадоў ён разваліўся...

Латэранскі касцёл будаваўся ў 1650 годзе. Звычайна, спачатку збіралі грошы, гадоў 25-30 нарыхтоўвалі матэрыялы: завозілі або самі фармавалі цэглу, гасілі вапну (а яе патрабавалася вельмі шмат). Цэменту, як такога, тады не было, а была так званая цэментка — гэта вапнавы раствор, на якім рабілі кладку. І чым даўжэй стаяў, выстойваўся гэты вапнавы раствор, тым больш кладка была трывалай. Так што будаўніцтва звычайна ішло не менш, як дзясятак, а то і два дзясяткі гадоў. Любыя такія збудаванні рабіліся па 20 гадоў.

Царквой ён стаў пасля таго, як будынак быў знішчаны, разбураны часам. Ён бяздзейнічаў на працягу нейкай сотні ці больш гадоў. Там службы не вяліся, бо касцёлаў хапала ў Слоніме і без гэтага храма. Гэта быў спецыяльны касцёл папскай курыі ці нейкага там папскага ордэну. І таму ён не быў прыходскім касцёлам, парафіяльным быў касцёл Св. Андрэя, а спецыяльным гарадскім — касцёл непакалянак. Да 1864 года сучасная царква Троіцкая таксама была касцёлам. Фактычна, на тэрыторыі горада касцёлаў было дастаткова.

Калі латэранскі касцёл разваліўся, руіны царскія расійскія ўлады аддалі праваслаўным. І праваслаўныя на гэтым месцы, выкарыстоўваючы ацалелыя сцены, збудавалі сабор. Гэта недзе ў 1840-я гады.

Дарэчы, у Слоніме быў яшчэ адзін касцёл — Св. Міхаіла. Ён знаходзіўся на тэрыторыі сучаснай плошчы Леніна, а раней Гандлёвай. Вось ён быў у цэнтры гэтай плошчы і быў знішчаны ў першай палове XIX стагоддзя. Нічога не засталося...

Фактычна, у гэты час на тэрыторыі Слоніма была толькі адна ўніяцкая царква — драўляная, невялікая. Яна была побач з былой 2-й школай (пасля — ВВК, Вучэбна-вытворчы камбінат): паміж Бернардынскай вуліцай (цяпер В. Крайняга) і Прырэчнай (каля канала Агінскага), на гэтым касагоры. Калі яна была пабудавана, цяжка сказаць. Дарэчы, да гэтага недзе ў XIV-XV стагоддзях на тэрыторыі горада Слоніма згадваецца каля дзясятка цэркваў праваслаўных, а ўжо да канца XVII ст. амаль усе цэрквы, з той ці іншай прычыны, згарэлі, і засталася толькі адна гэтая ўніяцкая царква, якая таксама згарэла ў 1848 годзе, здаецца... І на тэрыторыі горада не засталося ніводнай праваслаўнай царквы — адны толькі касцёлы. Карацей кажучы, экспансія каталіцызму на тэрыторыю Слонімшчыны была надзвычай моцная — гэта XVII ст. і нават XVIII стагоддзе.

На невялікія адлегласці, калі яны рэгулярна, штучна праветрываліся, тунэлі маглі эксплуатавацца. Такія невялічкія кавалачкі падзямелляў маглі існаваць, выкарыстоўвацца пры нейкай небяспецы. Інакш, калі тунэлі не праветрываліся, там скапліваўся газ, газ смяротны. А вось што тунэль, які быў выяўлены пры будаўніцтве ў 1970 годзе... яго накірунак быў магчыма ад касцёла і збудаванняў касцёльных непакалянак і да Шчары. Ён зусім магчыма мог адыгрываць каналізацыйную нейкую функцыю. Але вышыня яго дастатковая, каб у ім можна было і прайсці. І галоўнае, што ён быў пракладзены па рове, які адразаў палац Агінскага ад астатняга гарадскога масіву. Ён мог быць пракладзены або ў самым канцы XVIII, або ў пачатку XIX стагоддзя.

Я якраз вяртаўся з работы на абеді, як звычайна, цікавіўся, калі раскопвалі нейкія мясціны на тэрыторыі Слоніма. Затрымаўся і якраз пры мне экскаватар адкапаў нейкае скляпенне. І мы з экскаватаршчыкам вырашылі

прабіць скляпенне, паглядзець, што гэта за збудаванне. Скляпенне было прабіта, утварылася невялікая такая адтуліна, якая, аднак, давала магчымасць заглянуць унутр. І было выяўлена, што гэта нейкае падземнае збудаванне. Што яно з сябе ўяўляе, я ўжо гаварыў: гэта магчыма каналізацыйнае, а магчыма магло выкарыстоўвацца як нейкі падземны ход. Я пасля апускаўся туды і замяраў даўжыню — недзе 21 метр. Адзін і другі канец былі завалены друзам. Безумоўна, ён меў працяг і ў адзін, і ў другі бок. І мог выходзіць недзе бліжэй да канала Агінскага, можа і вельмі блізка да яго. Куды вёў другі канец, сказаць цяжкавата. Магчыма, нават на тэрыторыю касцёла. Магчыма, ён быў пабудаваны за кошт сродкаў касцёла. Чаму? Бо якраз тут добры пакат, тут не было патрэбы ад вуліцы адводзіць ваду. Таму што і ў адзін, і ў другі бок быў добры скат. І для каналізацыі, для адводу сцёкавых водаў не было неабходнасці будаваць гэты тунэль. А вось з тэрыторыі касцёлу і кляштара адводзіць сцёкавыя і каналізацыйныя воды, магчыма, і была такая неабходнасць. Чаму? Таму што ў кляштары магло быць многа людзей. Яны маглі адводзіць не ў самую рэчку, але недзе паблізу ўсё выходзіла на паверхню і можа нейкім ровам адводзілася ў канал.

Гэта проста чуткі, што як быццам бы ў часы акупацыі і ў першыя гады пасля акупацыі на тэрыторыі сучаснага аўтарамонтнага завода быў выяўлены кавалачак тунэля. Накірунак яго ад Троіцкай царквы паралельна Шчары ў напрамку Жыровічаў. Гэта для таго, каб прывязаць легенду аб тым, што калісьці Жыровічы былі звязаны са Слонімам падземным тунэлем.

Выяўлена частка падзямелля і побач з сучаснай Троіцкай царквой. Але гэтыя падзямеллі



былі амаль пад усімі касцёламі. Яны маглі весці ў падвальныя памяшканні будынкаў, якія былі збудаваны крышку пасля касцёлу — у XVII стагоддзі, некаторыя дабудоўваліся ў XVIII ст., у яго пачатку. Быццам бы хлопцы, якія лазілі ў падзямелле Троіцкай царквы, знаходзілі і труны, і штосьці яшчэ. Відаць, шукалі скарбаў, але іх яны там не знайшлі. Адзін з іх мне расказваў гэта. Ход быў здаецца з царквы. Як яны туды прабіраліся? Будынак кляштара адразу пасля вайны быў бясхозны, пуставаў. Таму быў даступны.

Была версія, што касцёл св. Андрэя быў злучаны тунэлем з касцёлам непакалянак. Гэта, безумоўна, не магло быць. Пад Шчарай такое збудаванне не магло праходзіць. Цяпер і то з цяжкасцю робяць тунэлі пад вадой, а ў тыя часы гэта было наогул немагчыма.

Але тое, што з самога касцёла св. Андрэя ішоў невялічкі тунэль, які злучаў яго з суседнім будынкам касцёльным, гэта, відаць, рэальна. Быў там такі ход. Але невядома як і колькі ён існаваў, і якую ролю адыгрываў, цяжка сказаць. Аднак тое, што ён там мог быць, гэты тунэль, гэта бясспрэчна. Адлегласць там невялікая — некалькі дзясяткаў метраў. Магчыма, ён і захаваўся, але заглушаны. Часткова ці цалкам. Але ён мог і праваліцца... Гэта збудаванне ўжо больш позняе. Касцёл 1775 года, а будынак побач з ім прыблізна 1790-га ці яшчэ пазней. Так што гэта магчыма. На адлегласць 10-20-30 метраў маглі існаваць тунэлі. Яны былі рэальнымі.

*Запісаў* ● ***Сяргей Ёрш***

# Бібліятэка Сапегаў у слонімскім палацы

У сярэдзіне XVIII стагоддзя ў слонімскім палацы (замку) жыў падканцлер літоўскі Міхал Антоні Сапега (1711 — 1760). Быў ён не толькі дзяржаўным дзеячом, але і літаратарам. У палацы існавала вялікая бібліятэка. Трэцяй жонкай Сапегі была Аляксандра Чартарыская (1730 — 1798), дачка Міхала Чартарыскага, канцлера вялікага літоўскага. Міхал Антоні памёр у Слоніме 12 кастрычніка 1760 года. Праз год Аляксандра ўзяла шлюб з Міхалам Казімірам Агінскім (1730 — 1800), будучым вялікім гетманам літоўскім. Як піша Анджэй Цеханавецкі, шлюб не быў шчаслівым, бяздзетныя Агінскія жылі паасобку.* І калі Агінскаму падабаўся Слонім, які ён зрабіў значным культурным цэнтрам, дык яго жонка ў асноўным жыла ў палацы свайго бацькі ў Седльцах на паўднёвым Падляшшы ў Польшчы.

Высвятляецца, што, з’язджаючы са Слоніма, Аляксандра Агінская забрала ў Седльцы частку кнігазбору свайго памерлага мужа. Вось што піша даследчыца Уршуля Главацка-Максымюк: “Бібліятэка палаца, якую тут [у Седльцах] меў бацька [Міхал Чартарыскі]… была ўзбагачана часткай багатага кнігазбору з палацу ў Слоніме. Кніжкі, якія княжна прывезла са Слоніма і тыя, якія набывала пасля, падпісвала на тытульным баку сваім прозвішчам. Да нашых часоў захаваўся толькі маленькі фрагмент гэтай бібліятэкі”.**

Як бачым, кніжныя скарбы са Слоніма вывозіліся не толькі ў Расію, але і ў Польшчу.

●***Арцём Салейка***

**Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. — Мінск: 2006. С. 45.*

***Głowacka-Maksymiuk U., Aleksandra z Książąt Czartoryskich Ogińska. — Siedlce, 2003. S. 92-93.*



***Міхал Антоні Сапега***



***Аляксандра Агінская (Чартарыская, Сапега). Фота: pl.wikipedia.org***



HISTOIRE
MODERNE
DES CHINOIS, DES JAPONNOIS,
des Indiens, des Persans, des
Turcs, des Russiens, &c.

*Pour servir de suite à l'Histoire ancienne de M. Rollin.*

NOUVELLE ÉDITION, REVUE ET CORRIGÉE.

*Prix, 3 liv. le Volume relié.*

TOME SECOND.

Alex: Ogińska

A PARIS,

Chez { Saillant & Nyon, Libraires, rue Saint Jean de Beauvais. / Desaint, Libraire, rue du Foin.

M. DCC. LXXI.

*Avec Approbation, & Privilège du Roi.*

***Аўтограф А. Агінскай на адной з кніг з яе кнігазбору.***

# Пра пачаткі партызанскага руху на поўначы Слонімскага раёна

“СК” пачынае друкаваць серыю матэрыялаў, прысвечаную партызанскаму руху на Слонімшчыне падчас Другой сусветнай вайны. Гэта і ўспаміны людзей, найперш былых партызанаў, і архіўныя дакументы. На жаль, дагэтуль хапае “белых плямаў”. У гэтым нумары змешчаныя фрагменты ўспамінаў былой партызанкі атрада імя Дзяржынскага Марыі Баршынавай (запіс зроблены аўтарам гэтых радкоў у Слоніме ў 1997 годзе). Яна распавядае пра двух першых арганізатараў партызанскага руху ў раёне Галынкі, Клімавічаў (цяпер гэта Зэльвенскі раён), Голяў, пра ўзаемаадносіны мясцовых партызан і савецкіх акружэнцаў (“васточнікаў”).



**Марыя Баршынава:** — Настаўнік з Галынкі і Кухарчык Міша з Клімавіч прыйшлі і арганізаваўся атрад [у 1942 годзе]. І ў нас было 9 чалавек “васточнікаў”, у вёсцы Голі жылі. І арганізавалі атрад.

**Сяргей Ёрш: — І хто пайшоў у атрад?**

— Усе “васточнікі” з нашай вёскі.

**— А мясцовыя хлопцы?**

— Мясцовыя пасля пайшлі. Зразу мясцовыя не пайшлі.

**— І як гэта было?**

— Кухарчык прыйшоў у нашу вёску і ён знаў, дзе жывуць гэтыя “васточнікі”. І кажа: “Хлопцы, трэба ісці. Трэба ісці штосьці рабіць!”

І пайшлі ўсе. А гэтыя “маменькіны сынкі” ляжалі дома...

**— Недалёка яны ад вёскі былі?**

— Недалёка. Зразу было ціха. Немец нічога пра гэта не ведаў і яны недалёка ад вёскі былі.

**— А чаму яны зімой вырашылі ісці?**

— Ён ужо пачуў, што “васточнікаў” немец будзе вывозіць у Германію. Таму ў лютым 1942-га і пайшлі.

**— А настаўнік можа таксама “васточнік” быў?**

— Так, ён таксама нейкі рускі быў. А прозьвішча не помню. Юшкевіч ці не, не помню... А ён у мяне і цяпер перад вачыма. Высокі такі, прыгожы.

Вясною ўжо пайшла моладзь з вёскі ў атрад, а ўвосені нашу вёску спалілі...

**— І многа моладзі пайшло?**

— Уся. Колькі ў нас яе было, уся пайшла.

**— Усе да гэтага атрада?**

— Так.

**— І што пасля было?**

— Пакуль у вёсцы стаялі пару тыдняў, а пасля немец ужо даведаўся, далажылі пра іх, трэба было хавацца ў лесе. Тады беларусы гэтыя клімаўскія, астраўскія, галынскія ўсе разбегліся дахаты.

**— А гэты настаўнік заставаўся?**

— А настаўнік. Ён мусі хацеў свой арганізаваць атрад. І ён пайшоў. Яго таксама не было.

**— З гэтым Кухарчыкам?**

— Так.

**— А калі Александроў з’явіўся?**

— Тут жа з’явіўся і Александроў [акружэнец], прыйшоў. На хутары Ракавіца Праўдзікаў. Александроў прыйшоў туды і там былі яшчэ “васточнікі”: Баршынаў, Мартынаў, Ханін, Захараў. І з Кастровіч пайшлі хлопцы ў партызаны, таксама ўсе былі “васточнікі”. Александроў быў камандзір атрада. А камісарам быў Вася з Кастровіч. Пасля ў партызаны пайшлі тыя, што ўцякалі з Германіі...

Атрад арганізаваўся. Усе беларусы з Галынкі, з Клімавіч большасць, нашыя галянскія “васточнікі” усе сядзелі ў Голях. Ну і хто іх карміць будзе? Трэба нешта думаць. Тады яны падаліся сюды ў Ракавіцу. А тут з’явіўся Александроў з “Максімам”, прыйшлі ў наш галянскі лес. Александрову было гадоў 35, а “Максіму” каля 25.

...Федзя быў камандзірам дру-

гой роты, "васточнік", ён загінуў у партызанах. З Кастровіч пайшоў. З імі пайшлі дзяўчаты кастровіцкія. Іх як "жонак" пабралі.

Александроў сказаў: "Хочаце беларусы з намі, будзьце, а не, я аддзяляюся, забіраю з сабой усіх "васточнікаў" і буду камандзірам".

— **Аддзяліўся?**

— Так і зрабіў. Гэтыя беларусы, хто застаўся, хто хацеў, а хто і паўходзіў. А Праўдзік Коля яшчэ быў дома. Як Александроў стаў, то забраў усіх "васточнікаў", а гэтыя беларусы аддзяліліся, то каторыя дахаты паўцякалі. А гэты Кухарчык і гэтыя мусі там яны *брэндалі*, то іх можа і свае пабілі. Не знаю... Іх не чужыя пабілі, а мусі свае. Што яны дэзерціры, *не хочуць хадзіць з імі*. Яны былі і не туды і не сюды, яны проста *хацелі самыя хадзіць*.

# Пётр Сталыпін у Слоніме



Вядомы расійскі дзяржаўны дзеяч-рэфарматар, прэм'ер-міністр Расійскай імперыі Пётр Сталыпін (1862 — 1911) бываў у Слоніме. Пра яго візіт у наш горад ёсць згадка ў кнізе "Столыпин П. А. Биохроника" (Масква, 2006).

30 траўня 1902 года Сталыпін быў прызначаны гродзенскім губернатарам (да таго часу ён служыў у Коўне (Каўнасе). На гэтай пасадзе прабыў менш за год і быў адпраўлены кіраваць Саратаўскай губерняй (прэм'ерам ён стане ў 1906-м). У ліпені 1902-га Пётр Сталыпін здзейсніў паездку па Гродзенскай губерні, пабываў у Саколцы, Беластоку, Бельску, Белавежы, Брэсце, Кобрыне, іншых гарадах. Падарожнічаў на конях. З Баранавічаў у Слонім Сталыпін выехаў чыгункай. Прыехаў у наш горад у 6:28 раніцы і прабыў да вечара. Паглядзеў Слонім, сустрэўся з мясцовай кіраўнічай элітай. У 19:11 губернатар паехаў у Ваўкавыск.

Дакладную дату, калі Пётр Сталыпін быў у нашым горадзе, высветліць не змог. Але "Гродненские губернские ведомости" напісалі пра паездку 16 ліпеня.

●***М. І.***

# Як слонімскія мяшчане выйгралі ў магістрата суд

7 чэрвеня 1930 года газета "Навагрудскае жыццё" ("Życie Nowogródzkie") паведаміла, што "жыхары Слоніма выйгралі працэс у магістрата з-за лесу". Яшчэ ў 1669 годзе кароль Рэчы Паспалітай Міхал Карыбут Вішнявецкі даў прывілей "хрысціянскай люднасці Слоніма" на права карыстання дрэвам з лесу за ракой Ісай, які належаў гораду (каля 2520 дзесяцін), для пабудовы дамоў з аплатай толькі паловы цаны. Калі ж дрэва спатрэбіцца пасля няшчасных выпадкаў (тых жа пажараў), то бясплатна. Слонімцы судзіліся яшчэ ў часы Расійскай імперыі, але не здолелі давесці справу да канца. У пачатку 1920-х суды распачаліся ўжо ў польскай дзяржаве. У мяшчан быў не толькі архіў іх судовых спраў, але і "аўтэнтычны каралеўскі прывілей".

Пра гэтую гісторыю мне распавядала сланімчанка Ніна Пятроўна Лукашэйка (Сяменік). Актыўным удзельнікам судоў за лес быў яе бацька Пётр Сяменік. Менавіта ён захоўваў згаданы прывілей, які ў 1940 годзе быў канфіскаваны савецкімі ўладамі.

Падрабязна пра судовую справу распавядзем у наступным нумары, а пакуль змяшчаем некаторыя дакументы, якія маюць дачыненне да яе. Іх калісьці дазволіла адсканаваць Ніна Пятроўна Лукашэйка. Яна зберагла гэтыя дакументы для нашчадкаў. ●*СЁ*

"Слонімскі край" можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/



Akta sprawy Zb. № 64. 36. /192 r.

Odpis

PROTOKOŁ

W dniu 27 Marca 1930 r.

Sąd Pokoju Powiatowy w Słonimie

na posiedzeniu publicznem rozpoznawał sprawę

Na sprawę stawili się: ...

Wzór № 18 P.

Druk. Dz. Pr. W. K. Warszawa Długa 52. 23.



Варшава 21 февраля / 5 Марта 1898 года. По реестру № 148.

Марка 20 коп.

Предсѣдатель Варшавскаго Окружнаго Суда подлинность подписи на семъ Присяжнаго Повѣреннаго С. Ф. Луневскаго удостовѣряетъ.

Февраля 21 дня 1898 г.

За Предсѣдателя

Секретарь


Trzydzieście i kancelaryjn…
dwadzieścia.

Sekretarz Sądu Okręgowego
w Grodnie


N O T A T K A

do protokułu w sprawie likwidacji służebności mieszczan chrześćjan miasta S ł o n i m i a

Adwokat Stefan Urbanowicz w imieniu mieszczan chrześćjan m.Słonimia prosił o zatwierdzenie decyzji Okręgowej Komisji Ziemskiej z dodatkiem w punkcie 1-ym tej decyzji słowa "wyłącznie" - w myśl wniosku Komisarza Ziemskiego, bądź też dodania do decyzji w punkcie 1-ym, iż uprawnienia powyższe przysługują mieszczanom chrześćjanom m.Słonimia z tem, że w myśl układu z 1881 r. - Magistrat m.Słonimia ma prawo drzewo z lasu wydawać i sprzedawać wyłącznie na potrzeby mieszkańców m. Słonimia.


…wały przez mieszczan chrześcijan.
Poddany pod głosowanie wniosek radnego p. …kiego przyjęty został we wszystkich jego punktach jednogłośnie przy sprzeciwie tego radnego p. … . –

Za zgodność
Sekretarz

PIECZĘĆ … SŁONIMA

Burmistrz

*Дакументы з архіву сланімчанкі Ніны Лукашэйка (Сяменік).*

ОТДЕЛ
НАРОДНОГО ОБРАЗОВАНИЯ
Слонимского уезда,
г. СЛОНИМ.
дн. 7. II. 1940 г.
№ 158.

Гр-ну СЕМЕНЮКУ П. г. СЛОНИМ

Замковая ул. №84.

Гр-н Родзишевский, инженер, сообщил Отделу Народного Образования, что у Вас имеется старинный документ мещанских прав г. Слонима с печатью, писанный на пергаменте. Ввиду того, что этот документ для Вас не представляет никакого значения, а для науки имеет историческое значение, ОНО обращается к Вам с просьбой передать имеющийся у Вас документ Слонимскому музею.

ЗАВ. СЛОНИМСКОГО ОНО /А.КУРИЛЕНКО/

Документ вышеупомянутый для Слонимского музея получил. г. Слоним, 11/II-1940 г.

Гражд. Семенюку Петру.



г. Слоним.

БССР.

Барановичская область.

Замковая улица д. №84.

(около Огродовой ул.)

ОТДЕЛ
НАРОДНОГО ОБРАЗОВАНИЯ
Слонимского уезда,
г. СЛОНИМ.
дн. 19 г.

З АРХІВАЎ

# Пра слонімца Мацея Байрашэўскага, які хацеў запісацца на беларускія афіцэрскія курсы

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца беларускамоўны ліст слонімца Мацея Байрашэўскага. У пачатку 1945 года ён знаходзіўся на тэрыторыі Германіі. І калі з'явіліся аб'явы пра стварэнне беларускага войска (яно мусіла ваяваць на баку вермахту, але здалося амерыканцам), выказаў жаданне запісацца на беларускія афіцэрскія курсы. Дакладна невядома, ці паспеў Байрашэўскі паслужыць у беларускіх вайсковых аддзелах. Вайна заканчвалася і ўсе разумелі, што капітуляцыя нацысцкай Германіі непазбежная. Удалося высветліць, што ў пасляваенны час Мацей Байрашэўскі застаўся на Захадзе, жыў у ЗША.





*Разбураны Слонім, здымкі 1944-1945 гадоў.*

Кіраўніку Вайсковых Спраў
Беларускай Цэнтральнай Рады

Сп[адару] Палкоўніку
К. Езавітаву.

Праз беларускую газэту "Раніца" мне давялося даведацца аб існаваньні Беларускіх Афіцэрскіх Курсаў.

Сам я паходжу з гор[ада] Слоніма на Беларусі, нараджэньня 1900 года, магамэтанскага веравызнаньня, увесь час жыў і працаваў на розных становішчах у Слоніме. Скончыў 4 класы Гімназыі, маю чын падафіцэра былой польскай арміі.

Выехаў са Слоніма ў Нямеччыну дабравольна ў ліпені месяцы 1944 г. з прычыны адыхода Нямецкіх войскаў. Маю "Fremdenpass"*, выданы мне паліцыей г. Франкфурт-Одэр.

Працую чорнарабочым пры заводзе Дойхендорф. Зараз я маю жаданьне паступіць на вышэй паказаныя курсы, а таму прашу Вас паведаміць мяне[,] ці магу быці я залічаны у якасьці курсанта Афіцэрскіх Курсаў.

22/I. 1945 г.
Мацей Байрашэўскі

Lager Deuchendorf, Kreis Kapfenberg, 12a
Sfeiermark, Baracke 3/I.

*Пашпарт замежніка. — *СЁ*.

На лісце ёсць штамп Беларускай Цэнтральнай Рады з пазнакай аб атрыманні яго 31 студзеня 1945-га.

Дакументы БЦР, а сярод іх ліст слонімца, вясной 1945 года былі захоплены савецкімі спецслужбамі і прывезеныя ў Мінск. Пазней яны былі перададзены на захоўванне ў НАРБ. Ліст змешчаны ў "СК" з захаваннем яго моўных асаблівасцяў.

● *Сяргей Ёрш*

# Гальяш Леўчык і “Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры”

Прайшло 90 гадоў, як у Вільні выйшла “Хрэстаматыя новай беларускай літэратуры” Ігната Дварчаніна. Гэта быў падручнік для старэйшых класаў беларускіх школ. Выдалі яго адным томам (на амаль паўтысячы старонак) і ў выглядзе пяці асобных частак. “Была гэта сапраўдная скарбніца беларушчыны, яе залатая старонка, — піша літаратуразнаўца Арсень Ліс. — Аб’ядноўвала Хрэстаматыя… найлепшыя здабыткі беларускага краснага пісьменства, беларускага мастацкага слова практычна за чвэрць стагоддзя, але самага інтэнсіўнага ў развіцці нацыянальнай свядомасці беларусаў, самага плённага ва ўсіх сферах беларускага жыцця”.*




На вокладцы трэцяга выпуску (часткі) бачым і прозвішча слонімскага паэта Гальяша Леўчыка (Ляўковіча), побач з Алесем Гаруном, Змітраком Бядулям, Канстанцыяй Буйло. Дварчанін — ураджэнец Слонімскага павету, цяперашняй Дзятлаўшчыны, выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Пражскага ўніверсітэта. Вось што ён піша ў “Хрэстаматыі” пра Леўчыка: “Галляш Ляўковіч (псеўд. — Леўчык) у адным з вершаў, пасвечаных Я. Коласу, прызнае яго найраднейшым сабе. Па гэтым можна судзіць, што ён залічае сябе да пісьменнікаў сялянскіх. Трэба ўсё ж прызнаць, што з Коласам Леўчык сходзіцца найбольш хіба толькі ў выяўленні смутку, які ўсцяж пранізвае яго паэзію. Колькі разоў ён сіліцца вырвацца ад гнятучага яго жалю, часам нават бадзёра ўдарае па струнах, але дзеля таго толькі, каб зараз-жа зноў вярнуцца да таго, з чаго пачаў. Сялянскі грунт у яго не ўсё ж выяўлены. Наагул Г. Л. — тыпічны пісьменнік-нашанівец з найбольшым прыбліжэннем да сялянскіх пісьменнікаў”.

Які цікавы і трапны аналіз! Далей Ігнат Дварчанін падае кароткія звесткі пра слонімскага паэта, якія ўзяў “з аўтабіяграфічнага ліста, прысланага для “Хрэстаматыі”. Іх у далейшым выкарыстоўвалі аўтары, што пісалі пра Гальяша Леўчыка. У кнізе змешчана і фота паэта з крыжыкам на грудзях. Ён яго спецыяльна павесіў на кашулю — прадэманстраваў сваю рэлігійнасць.

У “Хрэстаматыю” Дварчаніна ўвайшлі вершы са зборніка “Чыжык беларускі” (Вільня, 1912) і з ненадрукаванага зборніка “Беларускі жаўранак”. Гэтая кніга павінна была быць у бібіліятэцы Гальяша Леўчыка.



**Гальляш Леўчык.**

Гальляш Ляўковіч (псэўд. — Леўчык) у адным з вершаў, пасьвечаных Я. Коласу, прызнае яго найраднейшым сабе. Па гэтым можна судзіць, што ён залічае сябе да пісьменьнікаў сялянскіх. Трэба ўсё-ж прызнаць, што з Коласам Леўчык сходзіцца найбольш хіба толькі ў выяўленьні смутку, які ўсьцяж пранізвае яго паэзію. Колькі разоў ён сіліцца вырвацца ад гнятучага яго жалю, часам нават бадзёра ўдарае па струнах, але дзеля таго толькі, каб зараз-жа зноў вярнуцца да тога, з чаго пачаў. Сялянскі грунт у яго ня ўсё-ж выяўлены. Наагул Г. Л. — тыпічны пісьменьнік-нашанівец з найбольшым прыбліжэньнем да сялянскіх пісьменьнікаў.

Радзіўся ў м. Слоніме 20 ліпня 1880 г., куды пераехаў яго бацька з роднае вёскі (Шайпякі, Слонімскага пав.). Хадзіў у прыходзкую школу, а потым у г. зв. павятовую, якую і скончыў. З 1896 г. служыць у канцэлярыі Міравога Судзьдзі і Зьезду Міравых Пасярэднікаў. Потым працуе ў якогась каморніка. У 1904 г. пераяжджае ў Варшаву і працуе, як рысавальнік у мескім магістраце. Тут-жа ходзіць на лекцыі ў Школу Мастацтва. У Варшаве знаходзіцца й цяпер, прымаючы вучасьце ў грамадзкім жыцьці а).

Гальляш Леўчык.

Пісаў толькі вершамі, якія раскіданы па часопісях. Асобнаю кніжкаю выйшаў зборнічак:

„Чыжык беларускі“, Вільня, 1912 г.

Мая прадмова.

Нічога ня хочу… нічога, нічога —
Ні грошы, ні славы, ні шчасьця сьляпога…
А толькі ўсё жду я, каб родная мова
Хутчэй дачакала свабоднага слова!
Пакуль не даждуся багацьця такога —
Нічога ня хочу… нічога, нічога!

а) З аўтобіографічнага ліста, прысланага для „Хрэстаматыі“.

І ён ёй вельмі даражыў.

●*Сяргей Ёрш*

**Ліс А. Хрэстаматыя ад Дварчаніна // Новы час, 2014, 27 красавіка;*

*https://novychas.by/asoba/chrestamatyja_ad_dvarcanina*

**СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ**

# Пажар 1938 года



Strona 4 — ORĘDOWNIK, poniedział

**W żydowskim domu w Słonimie wybuchł katastrofalny pożar**

*Straty wynoszą przeszło pół miliona złotych*




Слонім, 21.5.[1938 г.] — Як ужо паведамлялася, у горадзе Слонім адбыўся катастрафічны пажар. Нягледзячы на тое, што ў выратавальнай акцыі ўдзельнічалі некалькі пажарных дружын, а сярод іх вайсковая і чыгуначная, агонь, узмоцнены моцным ветрам, пашыраўся з маланкавай хуткасцю.

Агулам пажар знішчыў 17 жылых дамоў, 6 гумнаў, 18 хлявоў, 1 мураванае збожжасховішча і вялікі склад дошак. З дамоў не ўдалося выратаваць маёмасць, мэблю і асабістыя рэчы. Таксама ў полымі загінулі ўсе хатнія жывёлы і запасы збожжа.

На Глухой вуліцы (цяпер гэта частка вуліцы Калініна і, відаць, завулка Калініна — "СК") згарэлі 8 дамоў, 3 гумна і 9 хлявоў; на Турэмнай вуліцы (цяпер — 8 Сакавіка — "СК") [згарэлі] 4 дамы, 1 гумно, 4 хлявы; на вуліцы Жвіркі і Вігуры (цяпер — Чкалава — "СК") [згарэлі] 4 дамы, 4 хлявы, 1 гумно і 1 збожжасховішча, а на вуліцы Пілсудскага (цяпер — Савецкая — "СК") 1 дом, 1 гумно і 1 хлеў.

Паводле падлікаў, агульныя страты складаюць больш за паўмільёна злотых.

На месцы працуе следчая камісія, якая праводзіць расследаванне з мэтай высвятлення прычыны пажару. Як устаноўлена, агонь з'явіўся ў адным з яўрэйскіх дамоў на Глухой вуліцы, пасля ён перакінуўся на суседнія дамы, у якіх жыло хрысціянскае рабочае насельніцтва, якое працуе на суседнім тартаку.

*Orędownik (Познань), 1938, № 118, 23 траўня.*

# Даляры з Масквы




ПАДЗЯКА. Вяліка-Кракоцкі Г[урто]к Т[аварыст]ва Беларускае Школы, Слонімскага пав[ета] шчыра дзякуе грам[адзяніну] Сьцяпану Пішчукевічу за прысланыя з Масквы тры даляры на культурна-асьветныя мэты Г[урт]ка.

**Управа гуртка**

*Зара працы (Вільня), 1928, № 8, 27 чэрвеня.*

# Выдатны падарунак для турыстаў

Слонім, Slonim, Słonim: фотаальбом. — Мінск: “Беларусь”, 2008. 151 с.

Дзесяць гадоў таму ў Мінску быў выдадзены фотаальбом, прысвечаны нашаму гораду. Рэдкі выпадак для постсавецкай Беларусі, калі ў выданні, выкананым на некалькіх мовах, адсутнічае пераклад на рускую. “Слонім, Slonim, Słonim” выдадзены на беларускай, англійскай і польскай мовах накладам 2000 асобнікаў. Гэта выдатны падарунак для турыстаў. Можна смела сказаць, што Міністэрства інфармацыі не дарма замаўляла і фінансавала гэты праект.

Фотаальбом укладаў і рабіў здымкі фатограф з Ліды Ігар Пешахонаў-Міцкевіч. У яго ўжо быў досвед падобнай працы, ранейшыя выданні былі прысвечаны Лідзе і Навагрудку. Пешахонаў-Міцкевіч уважліва вывучыў наш горад, здаецца, не прапусціў ніводнага вартага ўвагі аб’екта. І здымкі атрымаліся ўдалыя, у іх відаць дасведчаная рука таленавітага майстра, прафесіянала сваёй справы.

А вось да тэксту, які напісаў Анатоль Варава, пытанні ёсць. Дзіўна чытаць, што спрадвечанай назвай Жыровічаў былі Жыровіцы. Абсурдным з’яўляецца гэты сказ: “Авальная па форме плошча Леніна колісь іменавалася плошчаю ў дамініканскага кляштара (зараз на месцы кляштара стадыён і памятны знак у гонар знішчанага помніка)”. “СК” ужо пісаў пра тое, што дамініканскія касцёл і кляштар былі на месцы сучаснай плошчы Леніна.* Мемарыяльны знак каля стадыёна “Юнацтва” паставілі памылкова (відаць, з-за таго, што там стаіць капліца св. Дамініка).

Хоць кніга называецца “Слонім”, у ёй знайшлося месца і для Жыровічаў, распавядаецца гісторыя святыні, яе галоўных архітэктурных помнікаў.

**●Арцём Салейка**






***Руіны былога РДК (Народнага дома) у Слоніме. На яго месцы пабудаваны тэатр (з выкарыстаннем часткі сцен ранейшага будынка).***

**Гл.: Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 5-6.*

# Слонімскі гандаль у сярэдзіне 1920-х гадоў

"СК" заканчвае публікацыю спісу фірмаў (пачатак гл. у № 1-3(23-25) за 2018 год), якія ў 1925 годзе займаліся ў Слоніме гандлем, альбо працавалі ў сферы грамадскага харчавання.

**"Chana Sokołowska"**. Гандаль гаршкамі і спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Школьны Двор, 8. Уладальніца — Хана Сакалоўская. Яна жыла там жа.

**"Małka Bublacka"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1920. Слонім, вуліца 3 Мая, 33. Уладальніца — Малка Бубляцкая. Яна жыла там жа.

**"Abram Baskir"**. Аптэка. Год заснавання — 1901. Слонім, вуліца Гандлёвая, 25. Уладальнік — Абрам Баскір. Ён жыў там жа.

**"Abram Badasz"**. Гандаль скурамі. Год заснавання — 1922. Слонім, вуліца Школьная, 2. Уладальнік — Абрам Бадаш. Ён жыў у тым жа будынку.

**"Chana Deletycka"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1918. Слонім, вуліца Ружанская, 8. Уладальніца — Хана Дэлетыцкая. Яна жыла на Ружанскай вуліцы, 36.

**"Ester Daszczuk"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1909. Слонім, Гандлёвая плошча, будка (без нумару). Уладальніца — Эстэр Дашчук. Яна жыла на Бернардынскай вуліцы, 30.

**"Tajba Epelgrad"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, Берагавая вуліца, 15. Уладальнік — Тайба Эпэльград. Ён жыў там жа.

**"F. Grynblum"**. Сталовая. Слонім, Бернардынская вуліца (цяпер — Васі Крайняга), 24. Год заснавання — 1920. Уладальніца — Фрэйда Грынблюм. Яна жыла там жа.



*Каля Гандлёвых радоў у Слоніме.*

**"Lejzer Judelewicz"**. Гандаль шапкамі. Год заснавання — 1896. Слонім, Гандлёвыя рады, № 36. Уладальнік — Лейзер Юдзелевіч. Ён жыў у Слоніме на Берагавой вуліцы, 2.

**"Josiel Rypp"**. Кнігарня. Год заснавання — 1901. Слонім, Парадная вуліца (цяпер — Першамайская вуліца, яе ніжняя частка), 10. Уладальнік — Ёсель Рып. Ён жыў там жа.

**"Sara Kunica"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1920. Слонім, Гандлёвая вуліца, 4. Уладальніца — Сара Куніца. Яна жыла ў Слоніме на вуліцы Школьны Двор, 9.

**"Ester Kosowska"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1907. Слонім, Студэнцкая вуліца, 17. Уладальніца — Эстэр Касоўская. Яна жыла там жа.

**"Mozes Kapłański"**. Гандаль абуткам уласнага вырабу. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, № 88. Уладальнік — Мозэс Капланьскі. Ён жыў у Слясарным завулку, 7.

**"Fryda Klein"**. Гандаль жалезам. Год заснавання — 1905. Слонім, Гандлёвыя рады, № 68. Уладальніца — Фрыда Кляйн.

**"Jeruchim Lewinsztein"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1901. Слонім, вуліца Школьны Двор, 2. Уладальнік — Ерухім Левінштайн. Ён жыў у тым жа будынку.

**"Z. Lubowski"**. Кнігарня. Год заснавання — 1905. Слонім, Парадная вуліца, 12. Уладальнік — Залман Любоўскі. Ён жыў у тым жа будынку.

**"Dawid Łuński"**. Гандаль жалезам. Год заснавання — 1905. Слонім, Гандлёвыя рады, № 60. Уладальнік — Давід Луньскі. Ён жыў у Слоніме на Андрэеўскай вуліцы, 33 (цяпер — тэрыторыя рынку).

**"Ela Modelowicz"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1913. Слонім, Гандлёвая вуліца, 19. Уладальніца — Эля Мадэлёвіч. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Dawid Manikow"**. Гандаль кавалкамі скур. Год заснавання — 1902. Слонім, Гандлёвыя

рады, № 92. Уладальнік — Давід Манікоў. Ён жыў у Слоніме на Магістрацкай вуліцы, 12.

**“Szejna Manikowa”**. Гандаль кавалкамі скур. Год заснавання — 1907. Слонім, Гандлёвыя рады, № 89. Уладальніца — Шэйна Манікова. У Слоніме жыла ў Кароткім завулку, 28.

**“Chjena Myszkowska”**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1915. Слонім, вуліца Шаптыцкага, 1. Уладальніца — Х’ена Машкоўская. Яна жыла ў Слоніме на вуліцы Шаптыцкага, 50.

**“Judel Osakowski”**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, вуліца Шаптыцкага, 40. Уладальнік — Юдзель Асакоўскі. Ён жыў у Слоніме на Ружанскай вуліцы, 50.

**“Pesia Kadyszewicz”**. Гандаль хусткамі з бавоўны. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, № 77. Уладальніца — Пэся Кадышэвіч. Яна жыла ў Слоніме на вуліцы Панятоўскага (цяпер — Пушкіна), 3.

**“Szmuel Brewda”**. Гандаль збожжам. Год заснавання — 1925. Слонім, Ружанская вуліца, 80. Уладальнік — Шмуэль Брэўда. Ён жыў у тым жа будынку.

**“Ajzik Mołczadzki”**. Спажывецкая крама і гандаль рыбай. Год заснавання — 1897. Слонім, Ружанская вуліца, 1. Уладальнік — Айзік Моўчацкі. Ён жыў там жа.



**“Szmul Prymak”**. Гандаль скурамі, паслугі шаўца. Год заснавання — 1923. Слонім, Ружанская вуліца, 8. Уладальнік — Шмуль Прымак. Ён жыў у Слоніме на вуліцы Панятоўскага, 30.

**“Rachil Lemkin”**. Гандаль галантарэйнымі таварамі і футрам. Год заснавання — 1897. Слонім, Парадная вуліца, Гандлёвыя рады, № 26. Уладальніца — Рахіль Лемкін. Яна жыла ў Слоніме на вуліцы Школьны Двор, 5.

**“Mowsza Oliszewski”**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Панятоўскага, 24. Уладальнік — Моўша Алішэўскі. Ён жыў у Слоніме ў тым жа доме.

**“Fejga Łuniańska”**. Гандаль галантарэйнай драбязой. Год заснавання — 1898. Слонім, Гандлёвыя рады, № 108. Уладальніца — Фэйга Луняньская. Яна жыла на вуліцы 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейскай), 19.

**“Rywka Murawnik”**. Гандаль рэшткамі тканіны. Год заснавання — 1912. Слонім, Гандлёвыя рады, № 123. Уладальніца — Рыўка Мураўнік. Жыла ў Слоніме на Андрэеўскай вуліцы, 36.

*Публікацыя* ●***Сяргея Ярша.***



**“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/**

# Прывід Кляпацкага возера

***Паводле вусных апавяданняў жыхароў вёскі Азярніца пра здарэнне, якое адбылося ў 30-я гады XX стагоддзя***

Быў цёплы летні вечар. Стомленая Ганначка, паслабіўшы на шыі вузел хусткі, з асалодай адкінулася на мяккае духмянае сена. Увесь дзень яна правяла пад гарачым сонцам, разам з бацькамі працавала на сенажаці. І зараз, адчуваючы ва ўсім целе прыемную стому, з задавальненнем прыслухоўвалася да таго, як дзесьці ў альшыне старанна высвіставае сваю прыгожую песню салавей.



Чырвоны край сонца некалькі хвілін таму схаваўся за далёкім лесам, а замест яго на небе з'явілася белая, халодная поўня, якая непераадольна вабіла да сябе позірк. Воз на дарозе трошкі пагойдваўся і для таго, каб сканцэнтраваць на ёй зрок, Ганначцы прыйшлося прыўстаць ды абаперціся на локці. З левага боку ад дарогі знаходзілася прыгожае возера, на гладкай, нібы люстэрка, паверхні якога, яшчэ заставаліся некалькі апошніх чаўноў рыбакоў. З правага боку пачыналі з'яўляцца першыя хаты вёскі Ваўчкі.

Бацькі Ганначкі, седзячы ў пярэдняй частцы воза, ціха, у паўголаса радзіліся паміж сабой, абмяркоўваючы штодзённыя клопаты. Але раптам цішыня і спакой гэтага чароўнага летняга вечара перарваў гучны матчын крык.

— Літасцівы Божа! — з жахам вырвалася ў яе з грудзей.

Пакуль Ганначка, намагаючыся зразумець, што здарылася, пачала азірацца і круціць па баках галавой, яе бацька стаў хвастаць каня бізуном, ад чаго воз тузануўся і пакаціўся значна хутчэй. Маці пачала жагнацца і гучна маліцца, а бацька не прыпыняў падганяць каня.

– Тата, што здарылася?.. – пракрычала Ганначка і замаўчала на паўслове.

З прыдарожнай альшыны, прадзіраючыся праз галіны дрэў і хмызняк, выйшла вялікая, паўпразрыстая, апранутая ў белую сарочку, жаночая постаць. Не прыпыняючы кроку, яна не заўважаючы нікога і нічога, акурат за набіраючым хуткасць возам, перайшла дарогу і знікла ў прыазёрным чароце.

Маці працягвала маліцца, а бацька не спыняў гнаць каня аж да Азярніцы.

У тую ноч Ганначка доўга не магла заснуць. Перад вачыма стаялі белыя раскудлачаныя валасы і халодны шкляны абыякавы позірк, які яна не забудзе ніколі, а потым, калі стане дарослай, абавязкова распавядзе пра гэта здарэнне сваім дзецям і ўнукам.

Гэта было не першае і не апошняе з'яўленне прывіду жанчыны ля Кляпацкага возера…

І нават пасля таго, як маляўнічы вадаём быў асушаны падчас меліярацыі, гэты жаночы прывід не знік. Быццам імкнучыся прывабіць увагу да нейкай жахлівай старажытнай таямніцы або засцерагчы іх ад нечаканага ліха, якое набліжаецца, ён час ад часу паказваецца мясцоваму люду, моцна палохаючы сваім выглядам небаракаў-мінакоў на дарозе бліз былога Кляпацкага возера.

*Запісаў* ●***Міхаіл Шуляк***



**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш***.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.